№ 4 [7] КРАСАВІК 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЯЙ І ЛЮБОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 688744.

Падпісная цана на год 300 фр.

# У абліччы маральнага закалоту

Калі жыцьцё чалавека стае загрожаным і перад вачыма пачынаюць праносіцца няясныя, але заўсёды нейкія страшныя, абразы магчымае хуткае сьмерці, тады з асабліваю сілаю пачынаюць адзывацца розныя інстынкты, асабліва самазахаваўчы. Гэты самазахаваўчы інстынкт наймацней праяўляецца ў двох кірунках, або гонах: адзін — імкнецца выкарыстаць магчыма нядоўгія хвіліны жыцьця, каб выжыцца і пакінуць па сабе патомства, а другі — гоніць чым далей ад небясьпекі да розных хаванак. I адно і другое зьявішча палягае на лёгкаважаньні ўсякіх маральных правоў і прыказаньняў.

Чалавек, істота разумная і звычайна пануе над сваімі інстынктамі і гонамі, але ў ваенным і беспасрэдна паваенным ліхалецьці асабліва больш маладушныя і трусьлівыя людзі да тае ступені паддаюцца сваім інстынктам, што ў іх часам астаецца толькі людзкое аблічча. Аднак у нармальных умовах, з хвілінаю, калі жыцьцё ўсталіцца, дык і інстынкты прыціхаюць, людзі ў бальшыні самаапаноўваюцца і вяртаюцца да нармальнага жыцьця. Зазначаем, што гэтага зьявішча абагульніваць нельга, бо выняткі трапляюцца заўсёды і ўсюды.

Цяпер мы так-жа перажываем паваенны час і зьяўляемся сьведкамі распаношанага панаваньня жывёлінных інстынктаў у некаторых праявах жыцьця і некаторых асяродкаў. Гэта адносіцца ня толькі да нас, беларускае эміграцыі, але ў роўнай меры і ў роўнай ступені і да іншых народаў і ня толькі да эміграцыі ,але і да неэміграваўшых людзей — усюды адчуваецца пагоршаньне маральнасьці.

Калі ўважнёй прыглянемся да гэтага сумнага зьявішча, дык заўважым, што гэткі стан не зьяўляецца прыпадковым, бо сёньня замест стрымліваючае рукі часта адчуваецца нейкая нябачная, злосная рука, якая ўмысна растраўлівае ўсякія немаральныя гоны і падтрымоўвае гэты раздражнены стан. Ужо не адзін голас адзываўся аб гэтым у розных газэтах і на розных сходках, але міма ўсяго гэтага раскладовая дзейнасьць шырыцца далей.

У чым-жа справа? У чыім інтарэсе шырыць маральны расклад?

Некаторыя падзеі з старое, і з навейшае гісторыі могуць даць неблагі ключ да зразуменьня сучасных зьявішчаў.

Найбольшаю прычынаю ўпадку Рымскае імпэрыі быў папярэдні ўпадак маральнасьці. Калі рымскія патрыцыі дайшлі да таго, што ведалі толькі есьці, піць, весяліцца ды спраўляць оргіі, дык разладзілася ўсё грамадзкае жыцьцё і зьнікла абаронная моц імпэрыі.

Немаральныя скандалы на двары французскага імпэратара Людовіка XVI-га падрыхтавалі вялікую французкую рэвалюцыю больш, чым усякая рэвалюцыйная літаратура.

Разгром напалеонаўскае арміі ў Маскоўшчыне быў падрыхтаваны рознымі немаральнымі прычынамі, за якімі прыйшоў упадак дысцыпліны.

Скандалы на царскім двары перад першай

сусьветнай вайною, асабліва гаспадараньне там Распуціна, падпальвала да рэвалюцыі больш за ўсякіх агітатараў і Леніных.

Калі раней розныя надужыцьці і маральны расклад дзеяўся бяз злонамераньня, найчасьцей дзякуючы засьляпленьню верхаводзячых адзінак, дык сёньня наадварот — цяпер адчуваецца нейкі пляновы маральны расклад, але мэта яго ня іншая, як падрыхтоўка грунту да рэвалюцыі, да пераваротаў. Кожнаму ясна, якая сіла намерваецца ўчыніць гэты пераварот і да чаго яго выкарыстаць, бо-ж толькі адзіная партыя мае кліч: «Чым горай, тым лепей», таму і стараецца выклікаць гэтае пагоршаньне на кожным полі грамадзкага жыцьця, «разбурыць стары сьвет».

Назіраючы сёньня распальваньне руйнацкіх і разбураючых нізкіх інстынктаў і сілаў, мусім сябе спытаць: Ці гэтыя руйнацкія сілы могуць стацца канструктыўнымі, будуючымі? Якая сіла здолее апанаваць разбурханыя стыхіі, пазбаўленыя ўсякае маральнасьці? Хіба толькі адзіная грубая сіла, адзіны бязьлітасны тэрор здолее на нейкі час акелзаць іх, а гэта вядзе нямінуча да таго кашмарнага жыцьця нячуванага прыгону і паняволеньня, які сёньня так дбайліва хаваецца за «жалезную занавесу», каб не паказаць свайго запраўднага жахлівага аблічча тым, якія яшчэ яго ня бачылі на свае вочы і не адчулі на сваёй скуры.

Годнасьць чалавека — разумнае істоты і годнасьць хрысьціяніна — усыноўленага дзіцяці Божага ня то, што не дазваляе нам садзейнічаць маральнаму раскладу, але наадварот, кажа ўсімі сіламі яму супроцьставіцца. Справа спасеньня нашае душы вымагае ад нас апанаваньня ўсіх нізкіх гонаў; грамадзкае дабро вымагае таго самага.

Кожны з свайго жыцьця знае, што апанаваньне нашых нізкіх гонаў нават у нармальных умовах ёсьць ня лёгкаю справаю. Калі-ж наадварот, заместа апанаваньня зачнём ім патураць, ды яшчэ растраўляць, дражніць, і ў гэткім стане іх заспакойваць, дык тады чалавек агулам траціць сваю людзкую вартасьць. Грамадзкія і ўсякія вышэйшыя ідэалы для яго перастаюць існаваць — ён тады гатоў служыць кожнаму, хто толькі дазволіць далей задавольваць яго гоны і навыкі; хто дазволіць яму далей скочвацца па абраным шляху аж да поўнае загібелі і ганебнага канца, аб якім звычайна ня хоча думаць.

Неадрэчы будзе зьвярнуць увагу, што нават тыя самыя, якія сеюць маральны расклад, выкарыстаўшы яго, упаўшых асобнікаў звычайна караюць, паводля прыказкі: «Зраду прыймаюць, а зраднікаў вешаюць». Бо чаго добрага можна спадзявацца ад такіх асобнікаў, якія бутылку, дзеўку, ці гулянку цэняць па-над усё?

Прырода ў сваю чаргу ня літуецца над маральна-раскладовымі элемэнтамі. Згодна з прыроднымі законамі празмернае задаваленьне змыслаў вядзе да вырадненьня, або розных хваробаў, якія спрычыняюць перадчасную сьмерць.

А калі некаторыя дрэнныя ўчынкі ў дачасным жыцьці астаюцца непакаранымі, дык іх нямінуча чакае вечная кара ў прышлым жыцьці, якога з Божае волі, ніхто абмінуць ня зможа.

Гэта ўсё нам ня толькі кажа, але да пэўнае меры змушае ўважліва сачыць за сабою на кожным кроку, каб сваечасова магчы супроцьставіцца ўсім варожым сілам, якія пагражаюць так нашаму дачаснаму жыцьцю, як і вечнаму. **а. Леў.**

# Пазнай самога сябе

Рэлігійнае пытаньне так у сваіх асновах, як і ў далейшых, канцавых выснавах можа разглядацца падвойным спосабам: або ў сьвятле прыроднага разуменьня, гэта значыць, паколькі чалавек уласным натуральным розумам здолее прадставіць свае адносіны да Бога, або зноў у сьвятле надпрыроднага Божага аб'яўленьня, калі ўжо Бог Сам звонку пакаввае чалавеку, якое ён мае заняць становішча, адносна факту, сэнсу і мэты свайго існаваньня, разумець, што Божае аб'яўленьне толькі дапаўняе прыродную веду чалавека, даючы яму адначасна магчымасьць жыцьцёва датарнавацца, адпаведна настроіцца да новых, больш дасканальшых умоваў у яго адносінах да Бога. Нашае хрысьціянства якраз і ёсьць гэнай рэлігіяй, аснованай на аб'яўленьні Божым. Такім чынам усе асягненьні людзкога розуму, ці ў сьвятле прыроднай веды, ці ў сьвятле веры, увайходзяць у нашу жыцьцёвую праграму; яны павінны быць нам вартасныя, дарагія, як паветра, каторым дыхаем, як самое жыцьцё.

Агляд людзкога жыцьця, нажаль дае нам у запраўднасьці абраз даволі цьмяны. Рэлігійная, бычам, справа йдзе побач нашага жыцьця, як нешта дадатковае, як пытаньне нейкага другараднага значэньня, як праява, каторая прыймае найчасьцей характар, традыцыі, звычаю, навыку, сэнтымэнту Праўда, нас нельга назваць людзьмі нерэлігійнымі, але з другога боку нельга такжа сказаць, што тая рэлігія шчыльна, арганічна злучаецца з нашым жыцьцём, што мы ёю жывём, што ёю шчасьлівыя, што ёю мы асягаем сваю духовую раўнавагу, што праз яе, як падарожныя, сьмела глядзім ў будучыню, у вечнасьць.

Прычына нашых павярхоўных адносінаў да

рэлігіі ляжыць у тым мяноўна, што: або яе наагул замала знаем, ня хочучы бліжэй прыглянуцца яе вартасьцям і над імі глыбей задумацца, або зноў у тым, што яе трактуем мо' больш у сфэры разумовай-абстрактнай, тады, як яна ўся мае выяўляцца ў дзейнасьці, у жыцьцёвай практыцы. Вось-жа і кажам: Пазнай самога сябе, сябе, як чалавека, істоту абдараваную сілаю духа, сілаю розуму і волі, сілаю чуцьця кахаючага сэрца; пазнай адвечны закон, які ты носіш у сваім сумленьні. Пазнай сябе, як хрысьціяніна, як жывую арганічную частку містычнага цела Хрыста — і тады адазвецца ў табе твая рэлігійнасьць ужо ня дзеля вонкавых матываў, спабуджэньняў, але адазвецца з нутра душы, істоты твае, як вымога, як патрэба, як акт самога жыцьця.

Праглянь, пракантралюй сваю прыродную веду адносна Бога, адносна свае душы, мэты свайго існаваньня. Гэтым ты заложыш цьвёрдую аснову і да зразуменьня і да прыняцьця і да належнае ацэнкі Божага аб'яўленьня і самае веры. Да Бога нас вядзе сьвет, каторы ахопліваем сваім зрокам. Сьвет, гэта тая вялікая кніга, з каторае чалавек бярэ веду, паняцьце аб Богу і аб сваёй залежнасьці ад Яго. Скажам сабе ў душы: кожны вынік мае сваю прычыну, сьвет яе такжа мусіць мець; гэтак уканцы дойдзем да першай прычыны сусьвету — да Бога. Гэткаю дарогаю пазнаём і сваю душу, прытым уявім сабе, мо' больш як калі, як выразна, як магутна голас яе дамагаецца Бога.

Дзеля супроцьпастаўленьня глянем цяпер, як-жа мала, як няпоўна карыстаюцца людзі гэтым сьветам Божым у дасяганьні тае Першае Прычыны! Іх найбольш цікавяць толькі адны матэрыяльныя праявы, толькі прыродныя сілы дзеля прыстасаваньня і выкарыстаньня іх для розных тэхнічных патрэбаў. Далейшых пытаньняў гэтым сілам стаўляць ня прынята. Тымбольш грашаць многія і многія вучоныя павярхоўнасьцю свайго трактаваньня людзкое істоты; адно толькі і робяць, што дасьледжваюць усялякія праявы чалавечага жыцьця, ловяць іх, клясыфікуюць, але далейшага слова аб іх не гавораць, да крыніцы жыцьця, да самае душы не вядуць, не сягаюць. Нават найбольш своеасаблівыя праявы разумнае натуры і тыя, паводля некаторых сучасных фальшывых вучоных, замыкаюцца ў межах адных толькі матэрыяльных сілаў. Розум паводля іхняга разуменьня, гэта ня што іншае, як рух нэрваў, як нейкае вельмі далікатнае праяўленьне электрычна-магнэтычных сілаў у чалавека. Вольная воля, як гэткая, кажуць, ня існуе. Сумленьне гэта толькі нейкі навык, прыстасаваньне жыцьця да вонкавых абставін ці то з боку грамадзкай думкі, ці залежна ад набытых форм узгадаваньня. Што да душы, то і яна ў іх таксама няведама што такое; нейкае пустое слова, без ніякага рэальнага значэньня, ані думаць, каб ёй прызналі, што яна ў сабе, у сваім складзе незалежная ад матэрыі, як нейкая духовая субстанцыя! Чалавек па іхняму, як цэласьць, гэта нейкі аўтамат, машына.

Што-ж урэшце сказаць аб паходжаньні, аб пачатку людзкога роду і кожнага чалавека ў асобнасьці і ў чым уканцы разьвязка загадкі яго існаваньня на сьвеце? Зразумелая рэч, што калі ў їм усё матэрыяльнае, тады і ў пачатку ягоным удзельнічала толькі адна матэрыя. А канец чалавека — гэта так-сама толькі зьмена матэрыі, зьмена энэргіі, пераход яе ў іншыя формы і больш нічога; аб далейшым існаваньні чалавека па сьмерці тут, разумеецца, і гутаркі быць ня можа!

Хто-ж тады Бог у вачох гэтых людзей? Адказ той самы: гэта матэрыя, або як яе ў модзе называць, натура. З гэтага гледзішча, што можна сказаць наагул аб рэлігіі, аб духоўным жыцьці, маральнасьці чалавека? Кожнаму ясна, што калі выкасуем, выключым у чалавека духовую яго частку і перарвём ягоныя адносіны з Богам, тады гіне запраўды маральны парадак, гіне ўся рэлігійнасьць.

Гэткае трактаваньне чалавека з боку свавольнай навукі мае сваё ўжо згары абдуманае імкненьне—высвабадзіцца з-пад абсалютнай,найвышэйшай павагі, даць сабе поўную волю, у заспакаеньні ўсіх сваіх гонаў і ўцячы пры гэтым ад маральнае адказнасьці. Гэта якраз і ёсьць кіруючай пружынай усяго бязбожніцтва.

З сумам трэба сказаць, што гэнымі паняцьцямі перапоўнена аграмадная бальшыня сёньняшняе літаратуры, і тыя, што імкнуцца да асьветы, да веды, часта зусім нясьведама, удыхаюць у сябе той фальш і атруту. Як вынік гэтага — духовая анэмія, агульны заняпад хрысьціянскага ўздыму духа, і нейкі безнадзейны скептыцызм у паглядах на сьвет, на людзкое жыцьцё. З нашага боку на ўплыў тае ўдушлівае атмасфэры трэба даць моцны адпор. Інакш кажучы, нам трэба жыць сьветлым, абаснаваным на праўдзе, аптымізмам. Да гэтага давядзе нас нашая рэлігійнасьць у пазнаньні сябе і Бога. Замкнуцца бязвыхадна ў цесных рамках матэрыі, было-б нам няшчасьцем. Вось чаму нам трэба бязумоўна адхіліць заслону на ўсе тыя пытаньні, каторыя так слушна стаўляе людзкая душа, і апіраючыся на прыродных фактах, асабліва-ж на нашай разумнай натуры, дайсьці да апошніх, да канцавых выснаўкаў. Гэта наш сьвяты і сумленны абавязак і яго безадкладна трэба выканаць. Ніколі нельга забыцца слоў перасьцярогі, сказаных Сынам Божым — Сынам Чалавечым: «Якая карысьць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь сьвет, але запрапасьціць душу сваю?» (Мат. 16, 2»). Сьвя-

тая праўда, бо душы нам нішто, а нішто, апрача Бога не заступіць; ей цаны няма ў сьвеце! Прыглянься-ж ёй бліжэй і пазнай яе вартасьць, тады і пазнаеш годнасьць сваю, чалавеча!

**а. др. А. Р.**

# Богачалавек

(Надасланы артыкул).

Аб грэцкім філёзафу Дыогэну апавядаюць, што ён аднойчы хадзіў па вуліцах Афінаў з запаленым ліхтаром сярод белага дня быццам нечага шукаючы. Калі яго пыталі, чаго ён шукае пры сонечным сьвятле з запаленым ліхтаром, дык філёзаф адказаў: «Шукаю чалавека»!

Навочныя сьведкі гэтага здарэньня казалі, што філёзаф страціў розум, бо ходзіць па таргавішчу між грамадаў людзей і кажа, што шукае чалавека. Сонца сьвеціць, а ён мае ў руках запалены ліхтар. Відаць Дыогэн жадаў рэчаў немагчымых, незразумелых, ён шукаў такога чалавека, які яшчэ ня прыйшоў на сьвет, (Дыогэн жыў у гадох 413-323 перад Хрыстом). Ён хацеў спаткаць чалавека зусім чыстага, зусім дасканалага. Такім быў толькі адзін на сьвеце. Шмат пакаленьняў людзей прайшло пасьля Дыогэна, пакуль нарадзіўся той доўгажаданы і шуканы, дасканалы — як Дзіцятка ў Бэтлееме.

У тых-жа Афінах у наступных стагодзьдзях было шмат выдатных людзей і філёзафаў, якія дасьледжвалі глыбока жыцьцё прыроды і чалавека, але не знаходзілі адказу на самыя балючыя для іх пытаньні. Афіны бачылі такіх волатаў духа і філёзафаў, як Сократ, Плятон, Арыстотэль і інш, такіх дзеячоў, як Пэрыкл, Мільціяд, але ў гэтым-жа горадзе, дзе так буйна разьвівалася ўмысловае жыцьцё, абмежаванасьць людзкога розуму знайшла найлепшы праяў у тым, што быў збудаваны аўтар «Няведамаму Богу», якога адчувалі сваёю душою, але пазнаць нё змаглі.

Дзеяньні Сьвятых Апосталаў (17, 16-34) апавядаюць, як ап. Павал, адбываючы свае місыйныя падарожжы, зайшоў у Афіны і, ходзячы па горадзе, натрапіў на сьвятыню, дзе быў аўтар з напісам «Няведамаму Богу», і калі потым, на запросіны некаторых філёзафаў, ён пайшоў ў Арэапаг, дзе сходзіліся ўсе вучоныя і адбываліся ўсякія дыспуты, і там апостал пачаў абвяшчаць, што ён якраз і прапаведвае таго, раней Няведамага Бога, які зьяўляецца Стварцам сусьвету, гаспадаром Неба і Зямлі, Які адкупіў людзей праз свайго Сына, што ўваскрос з мёртвых. Не адразу афінскія грамадзяне згадзіліся прыняць гэтую навуку. Толькі некаторыя шчырым і радасным сэрцам пайшлі сьледам за апосталам, каб служыць Таму, раней Няведамаму Богу і ахрысьціліся.

Сёньня, па ўсіх закутках зямлі, ведамае імя, таго, раней Няведамага, ўсюды абвяшчаецца Яго навука; яна стаецца восьсю навокал якое круцяцца сусьветныя падзеі. Ён стаецца каменем падзелу: за Ім або супроць Яго; трэцяга выбару няма.

Хто-ж Ён, гэты Няведамы?

Ён, гэта Той, што радзіўся ў Бэтлеемскай стайні, жыў убога трыццаць гадоў, найбольш у Назарэце, займаючыся сталяркаю, толькі тры гады навучаў народ. Не стараўся прыпадабацца людзям, але гаварыў ім цьвёрдыя словы аб любові бліжніх, аб праўдзе, аб ахвярнасьці беднасьці й пакоры. Сваю навуку Ён сьцьвярджаў надзвычайнымі цудамі; за яе ён памёр, але на трэці дзень уваскрос і ўвайшоў у вечную славу. Гэтым чалавекам ёсьць Ісус Хрыстос Адзінародны Сын Бога жывога. Ён зьяўляецца найбольшым рэфарматарам у сьвеце. Яго навука мае нявычарпальную глыбіню і нявымоўную яснасьць, Ягоныя словы маюць нявымоўны чар і неперамажную сілу, яны палоняць душы мільёнаў і мільёнаў людзей. Ягоныя словы і навука змаглі запаліць слабых і немачных людзей да надлюдзкіх учынкаў, да дасканаласьці. За Ім пайшлі людзі, не зважаючы ані на мукі, ані нават на самую сьмерць. Ад часу прыходу Яго на зямлю загарэўся нейкі нявымоўны сьвет, які напэўна будзе так доўга гарэць, аж пакуль словы Яго ня стануцца рэальнасьцю Яго навука выклікае рэвалюцыю ціхую, але глыбокую; яна адбываецца бяз людзкое крыві, але крыві патрабуе. Не тае крыві тысячаў людзей катаваных зьверскім спосабам у змаганьні за багацьці гэтага сьвету, але тае Найсьвяцейшае крыві, якую Сам Хрыстос аддаў усю да апошняе каплі на Крыжы і якую сёньня дае сваім вернікам у форме Найсьвяцейшае Эўхарыстыі.

Надзвычайныя Яго пасьлядоўнікі. Іх нязьлічоныя тысячы аддалі з радасьцю свае жыцьцё, каб быць толькі Яму вернымі. Што да таго часу людзі ўважалі за вялікае, яны мелі за нішто. Няраз іх называлі дзівакамі і недарэкамі, таму што не цанілі славы, рэкордаў, багацьцяў, лёгкаважылі золата, роскашы і асабістыя выгады.

Але, гэта дзівакі. Аднак гэтыя дзівакі ёсьць сьвятымі — найбольшымі гэроямі. Яны зьмянілі дагэтуляшны парадак у сьвеце. Іх перамогу ніхто ня зможа вычыркнуць з гісторыі. Перамаглі ўміраючы. А іх кроў сталася насеньнем новых пера-

можцаў і да сёньня зьяўляецца нявычарпальнай крыніцай моцы. У канчатковым аднак выніку ўся іх моц выплывае з таго Аднаго Чалавека, якога шукаў філёзаф з ліхтаром у руках сярод белага дня. Той чалавек быў адначасна Богам. Каб Ён быў толькі чалавекам, людзі не змагаліся-б так: за, або супроць Яго. Ня стаўся-б Ён каменем, аб які спатыкаюцца ўсе, за Якога мільёны мучанікаў аддаюць сваё жыцьцё. Перад Ім і пасьля Яго былі вялікія і выдатныя людзі, як Аляксандар Македонскі, Напалеон, за якімі йшлі тысячы людзей, гатовых аддаць сваё жыцьцё, каб выканаць іх пляны, але хто сёньня аддасьць жыцьцё за Аляксандра Македонскага ці за Напалеона? Хрыстос-жа, як раней, так і сёньня зьяўляецца пачаткам і канцом, альфай і омэгай для сьвету.

Сьмяротныя людзі з хвілінаю сьмерці пачынаюць траціць свах прыхільнікаў і ўканцы стаюць толькі помнікамі ў гісторыі, але Хрыстос заўсёды аднолькава актуальны, а сёньня можа больш чым калі. Бо Хрыстос гэта Адзінародны Сын Бога жывога. Толькі кароткі час Ён быў на зямлі, але сваею сьмерцю Ён «перамог сьвет» і гэтая перамога ажыцьцяўляецца паволі, але пасьлядоўна аж да поўнае дасканаласьці.

**А. А.**

# Духовы скарб Беларускага Народу

У нашай літаратуры з галіны беларусаведы можна знайсьці некалькі большых і меншых працаў аб прыродных і эканамічных багацьцях Беларусі, але адначасна вельмі мала зьвяртаецца ўвагі на найбольшы скарб, які мае сам Беларускі Народ, на той скарб, што не схаваны ў нетрах зямлі, але ў душах народу.

У сучасным ліхалецьці, калі йдзе змаганьне ня толькі за зямельныя абшары, але і за душы народу, трэба цьвёрда памятаць аб тых народных скарбах і належна іх бараніць.

Тут зьвернем увагу на адну з найкаштаўнейшых пэрлаў беларускага духовага скарбу — на народную творчасьць.

Беларуская народная творчасьць для нас мае асаблівую вартасьць дзеля свайго здаровага маральнага духа, які зьяўляецца адною з яе істотных азнакаў. Усе беларускія народныя песьні: абрадавыя, рэлігійныя, бытавыя, жаўнерскія, а нават любоўныя, а так-жа казкі, прыказкі і прыгаворкі, якія суправаджалі кожны крок жыцьця беларуса перапоўнены глыбокаю і магутнаю сілаю, якая кіравала яго жыцьцём і нават у найцяжэйшых хвілінах не давала яму заламацца, падтрымоўвала яго. Гэтую зьяву ў беларускім жыцьці вельмі мастацка выказвае М. Багдановіч у «Апокрыфе» вуснамі музыкі. На запытаньне Хрыста: «Калі пяюць песьні у вас? Музыка адказаў: пяюць на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купала, у Пятроўку, на зажынках і дажынках. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах; пяюць дзіцё калыхаючы, і самі дзеці пяюць гуляючы; пяюць на йгрышчах і вечарынах, і на вясельлях і на хаўтурах, і ў бяседзе, і ў працы, і ў маскалі йдучы, і ўва ўсякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць».

Але самае найважнейшае ў гэтых песьнях дык гэта зьмест. Калісь, у мінулым, беларускія дзеткі, ня маючы сваіх школаў, узгадоўваліся амаль выключна на вуснай народнай творчасьці, дык неадрэчы будзе прыглянуцца таму зьместу хоць у агульных рысах.

Першыя песьні, якія беларус спатыкаў на парозе свайго туземнага жыцьця, былі калыханкі з іх наіўна-дзіцячым зьместам, але іх плаўна-лагодныя мэлёдыі маюць магутную ўзгадаваўчую вартасьць, бо яны ўжо з маленства лагодзяць усе буйныя парывы чалавека. Не дзеля чаго іншага кажа паэт:

Успомніш матку ты сваю,<br>
Як цябе люляла.<br>
Як табе і ўдзень і ўноч<br>
Песьні я пяяла.

У меру росту дзіцяці песьні стаюць паважнейшыя; спачатку жартаблівыя аб казлох, камарох, а потым прыходзяць нязьлічоныя бытавыя песьні. Трудна іх схарактэрызаваць у некалькі словах, бо-ж у іх, як у люстры, адбівалася ўсё тагачаснае жыцьцё; у іх выказваліся усе пачуваньні, і радасьць, і смутак, і нараканьне на крыўды, і надзея на лепшае заўтра; у іх апявалася, і гора, і зьдзек, і каханьне, і разлука, і сямейнае жыцьцё, і яго клопаты. Але іх зьмест? Іх зьмест быў такога роду, што нават сірата, пяючы сваю гаротную, сірочую песьню знайходзіла там крыніцу суцяшэньня. У тых песьнях ёсьць нейкі таёмны бальзам, які лагодзіць боль душы. Бо-ж гыя песьні перапоўнены неперамо́жным жаданьнем праўды, вераю ў сьветлае заўтра, упэўненасьцю ў мінучасьці цярпеньня. Якую магутную чароўную сілу маюць беларускія народныя песьні хай сьведчаць гістарычныя факты:

Калі Адам Міцкевіч меў назаўсёды разлучацца з сваімі сябрамі, дык была наладжана яго сябрамі разьвітальная вячэра, на якой яго найшчырэйшы сябра, Ян Чачот, запяяў беларускую песьню, дадаючы да народнае песьні яшчэ некалькі зваротак свайго ўкладу. І мэлёдыя і зьмест песьні так глыбака ўзрушылі Міцкевіча, што ён

у парыве экзальтацыі выгаласіў сваю славутую імправізацыю, якая зьяўляецца наймацнейшым мейсцам у найслаўнейшым творы «Дзяды». Аўтар там лунае аж у нябесных высях, хоць і сварыцца з Богам, на тое, каб потым перад Ім упакарыцца.

Уласт у апавяданьні «Лебядзіная песьня» дае іншы абраз дзеяньня беларускае народнае песьні на зрусыфікаванага беларуса Рыгора Лежню. Рыгор, жывучы ў Пецярбурзе доўгі час, забываецца аб усім родным, і калі аднойчы, замятаючы вуліцу, пачуў з вакна дому каля якога знайходзіўся, даўно забытую родную мэлёдыю, дык гэта яго так узрушыла, што ён раптам забыўся аб усім на сьвеце, аб сваім занятку, аб сабе самым; ён стаяў непарушна і перажываў даўно перажытае. Яго пераехалі, сьмяротна ранячы, але ён не адчувае ніякага болю, бо на гук роднае мэлёдыі ў яго душы адазваліся даўно няруханыя струны любові роднага...

Ядвігін Ш. апавядае ў сваіх «Успамінах» яшчэ больш вымоўны выпадак, калі ў грозных мурох маскоўскіх Бутырак «у цемры закратаванае камэры — пачулася, палілася сумная беларуская песьня...» і гэтая песьня тапачасных беларускіх арыштаваных студэнтаў сталася «неспадзеўкі знойдзеным дарагім скарбам». Пад уплывам роднае песьні ім (арыштаваным) хутка мінула ночка, і «колькі новых плянаў навеяла яна! Колькі новых зерняткаў закінула ў нашыя маладыя душы!»

Побач песьні магутным узгадаваўчым дзейнікам зьяўлялася і зьяўляецца сёньня казка. Колькі красы, чару і павабу маюць беларускія казкі! Там цэлы казачны сьвет, у які мімаволі пераносіцца слухач, у якім так-жа не бракуе зла і ліхіх людзей, бо-ж там і ведзьмакі, і чараўніцы, і смокі, і рознае гадаўё, але там-жа ёсьць і асілкі, якія перамагаюць усякае ліха западзеенае злымі сіламі, там-жа і слабыя цярпячыя гэроі перамагаюць усе перашкоды сваёю дабратою і любоўю.Там за праўду часта адбываецца жорсткае змаганьне, але ўканцы праўда заўсёды выходзіць пераможцаю, кожны добры ўчынак нагароджаны. Нават найбольш страшныя казкі канчаюцца радасным банкетам, на якім «і я быў, мёд віно піў, па барадзе цякло, але ў рот не пападала». Тыпы ўсіх ліхадзеяў і крамольнікаў у казках заўсёды прадстаўлены такімі, што да іх адчуваецца гідота, а пакрыўджаныя выклікаюць спачуцьцё. Так і хочацца, слухаючы казку, падказаць Іванку, каб сьцярогся ведзьмы, або ў якуюсь прорву ўвапхнуць бабу Ягу, ці таму-ж Іванку памагчы хутчэй усадзіць ведзьму ў раскаленую печ, нарыхтаваную для безбароннага дзіцяці.

Бог у казках зьяўляецца вельмі часта ў пастаці старэнькага падарожнага, з якога злыя людзі могуць насьмяхацца, а нават зьдзекавацца, але добрыя ад яго атрымоўваюць шчодрую нагароду, а злыя заслужаную кару, але заўсёды ў адносінах да людзей Бог выказвае шмат лагоднасьці і цярплівасьці.

Не дарма ў 1930 г. камуністы пазабіралі і панішчылі з усіх бібліятэкаў у БССР «Беларускія казкі, прыказкі і забабоны» А. Сержпутоўскага, «Зборнік народнай творчасьці» і іншае у гэтым дусе і адначасна пачалі штучна тварыць «новы» савецкі народны фальклёр, які ў беларускай апранаце меў на мэце шырыць атрутную прапаганду.

Прыказкі для Беларускага Народу заўсёды былі тымі няпісанымі жыцьцёвымі правіламі ў якіх была сабраная ўся доўгавякова народная мудрасьць і жыцьцёвае дазнаньне. У прыказках знайходзяцца нормы таварыскіх, грамадзкіх і сямейных адносінаў, а так-жа народная багасловія і самыя нормы адносінаў да Бога і прызнаньне залежнасьці ад Яго.

Варта яшчэ зацеміць, што ўся беларуская народная творчасьць мае прыгожую эстэтычную форму, якая дзейнічае ўшляхотніваючы на людзкую душу, гоіць яе раны і боль і адначасна лагодзіць грубасьць жыцьця.

Гэтыя духовыя скарбы замала пазнаць і ацаніць толькі на тое, каб імі хваліцца ці ганарыцца; з гэтага ня будзе ніякае карысьці, але з іх трэба і сёньня карыстаць, падобна як карысталі з іх нашыя продкі, каб не замірала духовае жыцьцё, але каб расло і красавала і зьбліжала нас да найвышэйшае дасканаласьці — да Бога.

Гэта асабліва важна ўсьведаміць сабе на эміграцыі і ў тых асяродках, дзе ёсьць вельмі вялікае расьсеяньне, там вельмі часта і шматлікія адчуваюць нейкую паражнечу ў душы, разарваўшы лучнасьць з роднымі звычаямі і ўмовамі, і замест шукаць рады і ратунку пачынаюць скочвацца да ўпадку. Тым асабліва радзіцца хоць адзін вечар замест бутылкі і гулянкі правесьці з роднаю песьняю, або нават і казкаю, гэтак будзе і сабе на дабро, і людзям на карысць, і Богу на славу.

# Жучка Кароўка

(Казка з Пружаншчыны).

Быў Дзед, была Баба, мелі яны Жучку Кароўку. Дзед меў дачку Марысю, а Баба — Таклюсю.

Дзедава дачка была працавітая, паслухмяная, скромная і прыгожая, а Бабіна — гультайка, упартая й раськепа.

Пачалі дочкі пад дзеўкі падбірацца, пачала

Баба думаць, як дзедавай дачкі пазбыцца, са сьвету збавіць.

Паехаў Дзед у лес па дровы, а Баба напхала поўны мяшок кудзялей ды верацён, укінула скарынку чорнага хлеба ў торбачку ды-й кажа да дзедавай дачкі:

— Пагоніш Жучку Кароўку пасьці, ды каб мне кудзелю спрала, а не — дык і да хаты не вяртайся!

Гоніць Марыся Жучку Кароўку на пашу й горка плача.

— Чаго ты, Дзеванька, плачаш? — пытае Жучка Кароўка.

— Як-жа-ж мне, сіраце, ня плакаць, Мачыха прыказала мяшок кудзялей спрасьці...

— Ня плач, Дзеванька, ня плач! Палажы мне кудзелькі на ражкі, а вераценцы ўткні ў вушкі і гані мяне да рэчкі.

Палажыла Дзеванька кудзелькі Жучцы Кароўцы на ражкі, а вераценцы ўткнула ў вушкі і пайшлі яны да рэчкі.

— Цяпер я паплыву за рэчку, — кажа Жучка Кароўка да Дзеванькі, — а ты кладзіся спаць, а як будзе заходзіць сонца, паклічаш мяне да дому.

Паплыла Жучка Кароўка за рэчку, а Дзеванька лягла, ды-й заснула на беразе.

Плыла, плыла Жучка Кароўка, аж выплыла на другі бераг. Тут яе спаткалі птушкі, вялікія й маленькія, дзюбатыя й доўгакрылыя і давай зьнімаць кудзелькі з ражкоў ды выцягваць вераценцы із вушкоў. Як узяліся яны да работы: тыя прадуць, тыя на матавіла ўюць, тыя снуюць, тыя цэўкі сучуць, тыя кросны навіваюць ды ў ніты і ў бёрды накідаюць. Спралі, саткалі, палаценца на рэчцы ўбялілі ды-й у сувоец скацілі. Палажылі сувоец Жучцы Кароўцы на ражкі, а верацёнцы ўткнулі ў вушкі.

Прахапілася Дзеванька са сну ды-й бачыць, што ўжо сонейка чырвонае за лес спускаецца. Успомніла пра Жучку Кароўку й пра кудзелькі й пачала клікаць:

— Быцу, быцу, Жучка Кароўка, да дому, на белую салому!

— Му-у-у! Му- у-у! Му-у-у! — адказвае Жучка Кароўка з-за рэчкі.

— Быцу, быцу, Жучка Кароўка да дому, на белую салому!

— Му-у-у! Му-у-у! Му-у-у! — што раз бліжай адзываецца Жучка Кароўка і выплыла на бераг. Бачыць Дзеванька сувоец палатна на ражкох і кінулася Жучцы Кароўцы на шыю й пачала яе цалаваць.

— Бяры, Дзеванька, сувоец у хвартушок і гані мяне да дому памалесеньку, каб я магла траўкі скубнуць.

Гоніць Дзеванька Жучку Кароўку памалесеньку, а калі тая і ў шкоду забяжыць, дык не адганяе, а яшчэ сама канюшынку па дарозе зьбірае ды Жучцы Кароўцы дае.

Прыгнала Дзеванька Жучку Кароўку на двор, выйшла Мачыха ды аж пазелянела са злосьці, калі пабачыла сувоец палатна.

Мігам па ваколіцы разьняслася вестка, што дзедава дачка найспрытнейшая пралля й ткаля!

Ня сьпіць Баба цэлую ноч ды ўсё лянок якнайбялейшы й якнайтанчэйшы выбірае. Сьпякла пірага, нават рыла яек, адрэзала кумпяка ды сьвежага сыра з маслам у торбу ўлажыла, а ў другую павесмы лёну ды вераценцы новыя, кляновыя.

— Ідзі, — кажа да свае дачкі, — Жучку Кароўку пасьці, ды не адставай ад дзедавай няўдаліцы, я-ж табе й яек наварыла, я-ж табе й кумпяка ўлажыла.

Закінула бабіна дачка торбы за плечы, узяла добрую пугу ў рукі ды ўсё сьцябае Жучку Кароўку то па сьцёгнах, то па боках ды праз сьлёзы прычытае:

— А каб цябе ваўкі задралі, як я цябе пасьці мушу! ды ўсё пугаю, ды пугаю. Слухала Жучка Кароўка, слухала, цярпела, цярпела, а потым раптам, як паставіць хвост дудой, як пойдзе праз поле ды ў лес, толькі яе і бачыла бабіна дачка. Шукала шукала аж да вечара, і лён, і верацёны пагубіла і торбу зь яйкамі ды сырам пакінула. Прыйшла вечарам, плачучы, да хаты.

Бачыць Баба, што яе дачка асаромілася, не дараўнала дзедавай, ды пастанавіла памсьціцца на Жучцы Кароўцы.

— Трэба зарэзаць яе! — кажа Дзеду.

Шкадаваў Дзед Жучку Кароўку, але што-ж зрабіць зь ліхою жонкаю, калі тая напастала так. Пачаў Дзед нажы вастрыць, а дачку ягоную Баба выправіла Жучку Кароўку шукаць.

Ідзе Дзеванька полем, лесам ды ўсё плача, Жучку Кароўку кліча:

— Быцу, быцу, Жучка Кароўка да дому, Дзед нажы точыць, цябе зарэзаць хочаць.

— Му-у-! Му-у-у! Му-у-у! — адзываецца Жучка Кароўка зь лесу.

— Быцу, быцу, Жучка Кароўка да дому, Дзед нажы точыць, цябе зарэзаць хочаць.

— Му-у-у! — зусім блізенька азвалася Жучка Кароўка й вышла зь лесу.

— Ня плач, Дзеванька, ня плач, — пацяшае Жучка Кароўка, — я ўсяроўна памерці мушу, але ты, як мяне зарэжуць, сама йдзі на рэчку мае кіньдзюшкі паласкаць. Зь іх выплыве пэрлавае зернятка, вазьмі яго й пасадзі каля хаты.

Зарэзалі Жучку Кароўку, узяла Дзеванька яе кіньдзюшкі ды-й панесла на рэчку паласкаць. Палочша, палошча, а сьлёзы цурком ліюцца ў рэчку. Схамянулася Дзеванька, працерла сьлёзы, ажно, бачыць, пэрлавае зернятка выплыла. Узяла яго Дзеванька, завязала ў хустачку, па-

лошча ды-й плача. Вярнуўшыся да хаты пасадзіла зернятка пад варотамі.

Прабудзілася Дзеванька ад шчэбяту птушак з усходам сонца. Выглянула, ажно бачыць, каля варот, з пэрлавага зернятка вырасла сярэбраная яблынька з залатымі яблычкамі, а на ёй птушкі шчабечуць.

Хутка разьняслося дзіва па ўсім сьвеце аб сярэбранай аблыньцы з залатымі яблычкамі.

Дайшла гэтая вестка аж да Князя. Зажадаў ён бачыць тую яблыню й тую дзеўчыну, што яе пасадзіла.

Запраглі Князю васьмёрку коняў у залатую карэту, сеў Князь і едзе, шукае яблыньку па ўсім сьвеце.

Едзе Князь, едзе каля палацаў багатых, праз гарады вялікія і праз вёскі бедныя са страхамі саламянымі, з камінамі пабялянымі. Аж вось бачыць Князь сярэбраную яблыньку з залатымі яблычкамі, ды зажадаў, каб яму адно яблычка сарвалі.

Пачула аб гэтым Мачыха ды хучэй сваю дачку ў прыгожыя ўборы надзела, а дзедавую пад карыта падвярнула. Пайшла бабіна дачка яблычка Князю вырваць, стала на вароты, а яблынька раптам паднялася ўгару. Баба й драбіну прынясла, абы толькі яе дачка яблычка залатое Князю дастала. А яблынька зноў вышэй паднялася. Колькі ні старалася бабіна дачка дастаць Князю залатое яблычка, ніяк не магла, бо яблынька ўсё вышай і вышай падымалася. Выйшла й Баба, прыбраўшыся, як на вясельле,каб Князю яблычка сарваць, але й яна не дастала. Прабаваў і Дзед—але нічога ня вышла. А Князь ўсё яблычка дамагаецца:

— Быць ня можа, — кажа, — каб у вас нейкага такога ня было, што мне яблычка ня мог сарваць!

Прыйшлося Бабе дзедавую дачку з-пад карыта выпусьціць ды паслаць Князю яблычка даставаць. Дала ёй Баба надзець старую поўзанку ды старыя лапці з канаплянымі аборамі. Пашла Дзеванька, сьлязьмі ўмыўшыся, пад яблыньку, а птушкі, як толькі ўбачылі яе, адразу радасна зашчабяталі, а яблынька пачала апускацца, ды так нізенька апусьцілася, што сярэбранымі галінкамі і залатымі яблычкамі аж на Дзеваньку палажылася.

Сарвала Дзеванька залатое яблычка й падае Князю, а Князь не за яблычка, а за ручку Дзеваньку ўхапіў і пасадзіў каля сябе ў залатой карэце. Тады й сярэбраная яблынька з залатымі яблычкамі і птушкамі-шчабятушкамі адарвалася ад зямлі і да Князя ў карэту села.

Князь сьвіснуў на хурмана й коні віхрам паімчаліся.

Едуць яны, едуць дзень, два, аж прыязджаюць у князеўскі двор. Яблынька ўзьнялася з карэты ды-й села пад вакном князеўскага палацу.

Князь загадаў гасьцей склікаць, ды такое вясельле згулялі, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць, аб ім па ўсім сьвеце гутарылі.

Жыве Дзеванька з сваім мужам-Князем, цешыцца з жыцьця, не нацешыцца, сярэбраную яблыньку падлівае ды Жучку Кароўку ўспамінае.

Прайшоў год, прайшоў другі ды такі сын нарадзіўся ў Князеўскае пары, якога 'шчэ сьвет ня бачыў: вочы, як фіялачкі, а чупрына залатая, кучаравая.

Але ня доўга цешылася Князёўна сваім шчасьцем. У трубы затрубілі й у паход пайшоў Князь. Асталася толькі з сынам Князёўна маладая ды са слугамі вернымі.

Ажно прыходзіць Мачыха ў госьці і падарунак прыносіць — зельля купальскага. Маніла, каб Князёўна напілася, то й муж вернецца здаровы з паходу й краса ніколі ня зьвяне, потым кажа:

— Хадзі на рэчку, я цябе да ўсходу сонца выкупаю, каб ніякія ўрокі не нападалі.

Пайшла Дзеванька з Мачыхай, нахіліліся над рэчкаю, а Мачыха й сьпіхнула яе ў воду.

Плача Князевіч, есьці хоча, а маці ягоная на дне ракі ляжыць.

Узяў слуга Маладзёна ды-й пайшоў над рэчку маці клікаць. Стаў на беразе ды-й кажа:

— Рысю-Марысю, Маладзён плача, есьці хоча!

— Няхай плача, пераплача — адказвае з дна Князеўна.

Няхай хоча, перахоча,
Я на дне ляжу,
Пясок вочкі засыпае,
Вада ножкі падмывае! —

Але слуга не адступаецца, ды ўсё кліча, ды ўсё кліча. Ажно выплывае Князёўна, з рыбіным хвастом замест ног, выплывае русалкаю, а ў валасы ракі ўпіліся. Накарміла дзіцё, а сама плюсь ў ваду.

Ходзіць штодня слуга на бераг, носіць Маладзёна ды ўсё кліча Князёўну. Яна выплыве, накорміць дзіцё, ды плюсь у ваду.

Аж вярнуўся Князь з паходу. Затужыў па сваёй Князёўне, узяў сына, ды-й пайшоў на рэчку. Кліча, кліча дзіцё накарміць, аж тая выплывае, а Князь яе за руку ды трымае. Яна вырываецца, хоча кінуцца ў ваду, але Князь ня пускае. Яна прыкінулася рыбаю, а Князь трымае, яна прыкінулася ракам, а Князь трымае, яна прыкінулася вужакаю, а Князь трымае і раптам перакінуў яе праз правае плячо раз, другі, трэці і перад ім, з русалкі, зноў стала яго жонка, яшчэ прыгажэйшая, чымся раней.

Вярнуліся ў палацы, склікалі гасьцей, ды гулялі, ды балявалі. І я там была, мёд-віно піла, па барадзе цякло, а ў рот не пападала.

А ў Мачыхі са злосьці жоўць лопнула.

Расказвала Бабулька **Ніны Расы.**

# Сацыялягічныя зацемкі

(Заканчэньне).

## СУЖЫЦЬЦЁ ВОЛЬНЫХ НАРОДАЎ.

Нацыянальная дзяржава ня ёсьць апошнім зьвяном разьвіцьця грамадзкасьці. Поступ формаў людзкога сужыцьця стрымацца ня можа, бо ўвесь сьвет ідзе бязупынна ўперад. Працэс фармаваньня шырэйшай супольнасьці, унівэрсалізму зьяўляецца неабходным. Ён адбываецца на нашых вачох. Творацца групы народаў, гаспадарстваў, сказаць бы па навачаснаму «злучаных дзяржаваў», як ЗША, як Ангійскі камплекс, Паўднёва — Амэр. камплекс ды ім падобныя.

Унівэрсалістычная хрысьціянская-сацыяльная думка ўвайходзіць так сама ў міжнародныя суадносіны, шукаючы апоры для іх на тэй самай этыцы, на якой маюць апірацца суадносіны між людзьмі; падымае кліч маральнасьці і права ў міждзяржаўных суадносінах; байкатуе шавінізм, імпэрыялізм і агрэсыю, што слабейшым накідаюць сваю волю. Унівэрсалістычны лад сьвету павінен апірацца на штораз вышэйшых формах сужыцьця саюзаў народаў: ад адзіночнага народу, праз рэгіон сям'і народаў, кантынэнт, да арганізацыі сьвету.

Кожны чалавек мае своеасаблівы тып і характар, але існуюць між людзьмі большыя або меншыя падабенствы. Гэтак сама і з народамі. На адменнасьць ці падабенства ўплывае цывілізацыя і культура, гістарычнае мінулае, геаграфічныя ўмовы, гаспадарчы стан і т. п. Спосаб разуменьня зьявішчаў ды падыход да іх ёсьць іншы ў эўрапэйцаў, іншы ў амэрыканцаў, іншы ў кітайцаў; а нават іншы ў суседуючых з сабою народаў, як напр. беларусаў і расейцаў, або палякаў. Гэных розьніцаў і падабенстваў ня можна памінуць у арганізацыі сьвету. Агульныя прынцыпы вымагаюць справядлівага ўдзельніцтва народаў, рэгіонаў і кантынэнтаў у арганізацыі сьвету. Ня можна выкарыстоўваць падабенстваў для шавіністычных мэтаў, для дэнацыяналізацыі: груба неэтычна з Божага сатварэньня рабіць антынатуральную рэнэгацкую карыкатуру.

## РЭЛІГІЯ

Гістарычны досьлед паказаў незапярэчна, што да гэткага ўнівэрсалістычнага міжнароднага і міждзяржаўнага суладзьдзя можа натхнуць і давесьці толькі унівэрсальная наднацыянальная рэлігія, гэная магутная цывілізацыйная і культурызацыйная сіла, якою і ёсьць боскі хрысьціянізм, што ўзгадоўвае ўсіх на глыбокай этыцы і веры ў нескачатны Абсалют, і ў Ягонную Царкву-Касьцёл. Нацыянальныя рэлігіі абсалютна няздольныя да гэтага свайго сьціплага вузкапартыкулярнага аўтарытэту, што яго ня прызнаюць ня толькі іншыя народы, але нат і свой. Не дзеля чаго іншага ўцерлася прыказка: «Закон, што дышла — куды павярнуў, туды й вышла». Законы чыста людзкія заўсёды мелі-б такую слабасьць, калі-б іх не натхняла і не санкцыянавала сіла найвышэйшага Божага права, бо чалавек сам сабе не выстарчае, ён замалы на тое, каб налажыць самому сабе непарушальны закон. Крыніцай эгаістычна-разбойніцкага праваломства й дзікай анархіі заўсёды было бязбожжа, або нявера ў боскасьць права і ягонай санкцыі.

І вось хрысьціянская рэлігія, сувэрэнная Царква, якая ўзгадоўвае людзкое сумленьне на прынцыпе непарушальнай сьвятасьці права і яго унівэрсальнасьці, тым самым ратуе правапарадак. Таму над народамі і над дзяржавамі мусіць быць рэлігія. Але ня ў тым сэнсе, каб духоўная клерыкальная ўлада сама станавілася на чале дзяржаваў замест сьвецкага ўраду. Не! У хрысьціянскай дзяржаве рэлігія мае абсяг сваіх беспасярэдніх заінтэрасаваньняў і дзейнасьці да галіны ўзгадаваньня, пашырэньня і ўглыбленьня Хрыстовае навукі, каб гэткім спосабам уфармаваць маральна-ўзгадаваўчую псыхіку народаў і дзяржаваў.

## САМАЎРАД.

З хрысьціянскім ладам глыбока зьвязана ідэя самаўраду, што запэўнівае часовай функцыянальнай грамадзе права самадзейнага кіравецтва справамі, ды ўкладаньня іхных нутраных суадносін. Бо гэткая грамада паўстае з супольнасьці, ды могуць быць або накінутыя згары, бяз увагі на асабовасьць людзей складаючых даную групу, або могуць быць рэзультатам пераканаваньняў і паглядаў згуртаваных асобаў, якія лучаць сваё жыцьцё і досьлед з існаваньнем і функцыянаваньнем данае грамады.

Самаўрадавы лад шмат аблягчае і кіруе на больш рэальны шлях натуральнае імкненьне людзей да фармаваньня грамадзкага жыцьця.

Жыхары якогась аднаго абшару — павета, места краю маюць цэлы рад сваіх супольных, толькі іх цікавячых карысьцяў; вось-жа справядлівасьць вымагае, аддаць іхнія справы ў іхнія рукі. Тое-ж самае трэ' сказаць пра людзей фізічнае працы ці інтэлігэнтнае творчае ці выканаўчае. Іхняе удзельніцтва ў пэўных стадыях прадукцыі вымагае суладзьдзя, узаемнага данараўленьня, даверу. Яны ўдзельнічаюць у адным працэсе вытворства, даных вартасьцяў сумесна. Каб іхняя самазгоднасьць выплывала з уласнага глыбокага пераканаваньня, а ня з прымусу—трэба, каб яны самі даканалі ўмовы свае супрацы. Хай кожны з іх бачыць і адчувае свой уклад у гэную

творчасьць ды з надзеяй на яе пладавітасьць чэрпае жыцьцёвую радасьць.

Да таго далучаецца самаадукацыя і культурныя самадасягненьні. Не самую толькі навуку маем на думцы, але і кожны развіваючы фізычна спорт, а нат' гульню, якая асьвяжае і падтрымоўвае раўнавагу духа.

Уся гэтая сфэра людзкога жыцьця будзе найлепш сарганізавана свабоднаю воляю і пераканаеньнем тых, хто творыць культуру і тых, хто сабе яе ўспрыймае.

ВЫСНАВЫ.

Мэтаімкненьнем хрысьціянска - сацыяльнай думкі і вынікаючай з яе дзейнасьці ёсьць стварыць такі унівэрсалістычны лад, які будучы згодны з натураю чалавека, тварантаваў-бы грамадзкую і міжнародную справядлівасьць.

Ён апіраўся-б на дзьвёх асновах:

Мэтай уладжаньня палітычнага, гаспадарчага і культурнага сьвету ёсьць чалавек-асоба, ягоная вольнасьць, дабро, шчасце і ягоная несьмяротная душа.

Чалавек можа асягнуць сваё поўнае разьвіцьцё толькі ў здаровым грамадзтве, якое сам уладзіць сваею здароваю, поўнаю індывідуальнасьцю (а не бяздушнаю паўчалавечаю), і якому аддасьць усе свае творчыя магчымасьці ня з прымусу, а з уласнае волі і любові.

# ЛЮБОЎ

Аб любові ўжо толькі напісана, толькі нагаворана, толькі створана для яе ўва ўсіх літаратурах сьвету, што пішучы гэтыя радкі мімаволі чуецца анясьмяленьне, калі маецца намер не тварыць нейкую паэму аб гэтай невычарпальнай тэме, але заняцца ёю з празаічнага гледзішча. Гэта так-жа неабходна, можа нават больш, чым паэзыя.

У беларускай мове вельмі часта самое слова «любоў» ужываецца ў значэньні каханьня — ня зусім гэта правільна, бо каханьне азначае змысловае ўпадабаньне і жаданьне мецъ каханы прадмет, а любоў служыць для азначэньня ня толькі змысловага ўпадабаньня, але ў першую чаргу азначае ўпадабаньне духовае з жаданьнем дабра для аблюбаванага прадмету ці асобы, таму любоў заўсёды спалучана з дабрадзействам.

Гаварыць аб каханьні няма патрэбы і намеру, бо яно зьяўляецца само нават тады, калі яго і не спадзяюцца, але аб любові сёньня гаварыць трэба больш чым калі. Найпаважнейшаю прычынаю сучасных закалотаў і грамадзкіх разрухаў зьяўляецца адсутнасьць любові. У абліччы сучасных сусьветных падзеяў і закалотаў людзі шукаюць новых тэорыяў да новых рэформаў, але напярод можна сказаць з усёю ўпэўненасьцю, што пакуль у аснову ўсіх рэформаў ня ляжа любоў, яны будуць толькі бясплоднымі намаганьнямі згары прыгаворанымі на няўдачу.

У пошуках за праўдаю пытаюцца разумных людзей, пытаюцца мудрацоў, ня боймася-ж спытацца аб гэтым і самога Бога. Калісь законьнікі пыталіся Хрыста: «Якое найбольшае прыказаньне ў законе? Ісус адказаў: «Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, усею душою тваею, і ўсім разуменьнем тваім. Гэта ёсьць першае і найбольшае прыказаньне. Другое-ж — падобнае яму; палюбі бліжняга твайго, як самога сябе. На гэтых двох прыказаньнях грунтуецца ўвесь закон і прарокі». (Мат. 22, 36-40). Як трэба любіць і Бога і бліжняга Хрыстос ня толькі навучаў, але больш паказваў прыкладам, сваімі ўчынкамі, каб магчы ў разьвітальнай прамове да апосталаў сказаць: «Даю вам новае прыказаньне, каб любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас» (Ів. 13, 34).

Вось нам адказ і павучэньне, а прыкладам можа служыць усё жыцьцё Хрыста. Хрыста ніколі ня бачылі, каб Ён сьмяяўся ці насьміхаўся над кім небудзь, але затое Яго бачылі, як літаваўся над кожным, хто да Яго зьвяртаўся; Яго бачылі, як плакаў над сваім прыяцелем Лазарам, Яго бачылі як плакаў над долею Ерузаліму, Яго бачылі, як абліваўся крывавым потам у муках перад дабраахвотнаю ахвяраю за людзей, Яго бачылі, як дароўваў грахі і правіны ўсім грэшнікам, як маліўся за тых, што Яго распіналі. Да беднае ўдавы, якая ўтраціла адзінага сына, Ён сам падышоў з валадарным словам: «Ня плач!» і бяз лішніх слоў уваскрасіў яе сына ў Наін. І палюбіў Хрыстос Бог нас людзей бесканечнаю любоўю, палюбіў да канца (Ио. 13, 1) і астаецца з намі заўсёды ў найпрасьцейшай форме пад відамі хлеба і віна ў Найсьвяцейшай Эўхарыстыі і чакае ціха бяз слоў калі мы, людзі, прыдзем да Яго з нашымі просьбамі і турботамі. Як бесканечны Сам Бог, дык такая Яго і любоў. Выключна дзеля Свае любові стварыў Бог сьвет і чалавека, выключна з любові другая Божая Асоба, Сын Божы, Ісус Хрыстос, уцелавіўся і адкупіў ад грахоў людзкі род сваёю крываваю ахвяраю, з любові ўстанавіў сьвятыя Тайны, праз якія немачныя і зьнікомыя людзі атрымоўваюць Божае сыноўства, выключна з любові абяцаў Бог і стварыў для людзей вечнае шчасьце ў Небе — у абліччы Самога Бога.

Дык любоў і ёсьць тая сіла, якая можа зрэфармаваць кожнага чалавека ў паасобнасьці, а праз гэта і ўвесь сьвет. Як дробны прамень сонца ёсьць магутнейшым за ўсе сьветачы вынайдзеныя людзьмі, так найдрабнейшая іскра любові з бесканечнае Божае дасканаласьці варта

больш, у наладжаньні грамадзкіх аднюсінаў, за ўсе людзкія тэорыі і выдумкі.

Як няма агню бяз полымя, так няма любові бяз дзеяньня. Гэта бачым і ў Бога і ў людзей. Апосталы запаленыя Божаю любоў, кінулі ўсё і пайшлі выконваць загады Хрыста, абвяшчаць яго Добрую Вестку; аддаючы за гэта нават сваё жыцьцё. Іх вучні пайшлі тым самым сьледам. Адзіны з апосталаў евангеліст Іван, які дажыў глыбокае старасьці і памёр сваею сьмерцю, перацярпеўшы выгнаньне, зьяўляецца асабліва важным сьведкам аб жыцьці і настрою першых хрысьціянскіх грамадаў. Зьнямоглага апостала часта прыносілі на руках для супольнае малітвы і пасьля вельмі часта пыталіся яго: «Скажы нам што небудзь аб Хрысьце». Апостал заўсёды адказваў: «Дзеткі, любецеся!» Калі яго пыталіся, каб сказаў больш, дык апостал часта адказваў: «Любецеся толькі шчыра і боль нічога ня трэба», І запраўды любоў была найбольш характэрнаю азнакаю першых хрысьціянскіх грамадаў. Нават пагане не разумеючы ані навукі, ані вымогаў хрысьціянства часта мусілі сьцьвердзіць факт, кажучы: « Глядзеце, як яны любяцца».

Любоў гэта не якоесь кволае пачуцьце, але магутная сіла і таму хрысьціянства прасякнутае гэтаю сілаю хутка разрасталася, не зважаючы на самыя жорсткія перашкоды і праслед. Каб зрабіць адзін вялікі, ці гэройскі ўчынак патрэбна вялікая духовая сіла, а каб рабіць гэткія ўчынкі акуратна і штодзенна праз усё жыцьцё, патрэбна такая сіла, якое нават і азначыць, ці ацаніць немагчыма; якраз тэткую сілу надае людзям любоў. Можа найпрыгажэй і найлепш азначае любоў ап. Павал. Ён гаворыць: «Калі я раздам усю маю маемасьць і аддам цела маё на спаленьне, а любові ня маю, дык няма мне ніякае карысьці. Любоў доўга цярпіць, яна міласэрная; любоў не зайздросьціць, любоў ня вывышшаецца, не надзімаецца, ня буяніць, ня шукае свайго, не гняўліва, ня думае благога, ня радуецца з крыўды, але цешыцца з праўды. Усё пакрывае, усяму верыць, усяго спадзяецца, усё цярпіць. Любоў ніколі ня чэзьне» (I Кар. 13, 3-8). Гэтая любоў, пэўна-ж, праяўляецца ня словам, але чынам. Найчасьцей там, дзе шмат гаворыцца аб любові, гэтае любові так мала, што стараюцца пустамельствам закрыць паражнечу, бо любоў дзейнічае бяз лішніх слоў.

Ад часу Хрыста і да сёньняшніх дзён любоў выконвае неймаверна вялікую рэформу ў сьвеце. Яна дзейнічае паволі, неспасьцярожна, але дзейнічае. У шматлікіх прыповесьцях аб Царстве Нябесным між іншым Хрыстос казаў: «Царства Нябеснае падобна да закваскі, якую жанчына, узяўшы палажыла ў тры меры мукі, дакуль ня скісла ўсё» (Мат. 13, 33). Любоў, гэта і ёсьць тая закваска у сьвеце, якая ператтварае звычайнага слабасільнага і непастаяннага чалавека на годнага грамадзяніна Нябеснага Царства.

Нябачна пад уплывам любові ад часу Хрыста зьмяняліся драконаўскія законы, дзікія звычаі, паўставалі абаронцы справядлівасьці і зьнікала няволыніцтва, прыгон. Хоць сучасныя некаторыя грамадзкія тэорыі, якія дамагаюцца грамадзкае справядлівасьці стаяць на нехрысьціянскім грунце, а нават варожыя хрысьціянству, аднак яны так-жа можа нават нясьведама паўсталі пад уплывам дзеяньня хрысьціянскае любові, бо на хрысьціянскай ніве расьце ня толькі добрая пшаніца, але і кукаль, пасеяны ворагам чалавецтва, і шмат каго вабяць і зманваюць на бездарожжа «чырвоныя» кветкі куколю.

Таму сёньня абавязкам кожнага чэснага хрысьціяніна ёсьць словам і найбольш чынам выконваць Хрыстова прыказаньне аб узаемнай любові, а не ўганяцца за розным куколем, бо гэта адзіны шлях, на якім знаходзіцца разьвязка ўсіх набалелых і пякучых пытаньняў асабістага і грамадзкага жыцьця.

Непатрэбна шукаць падманы, маючы запраўдны лек, і непатрэбна шукаць навамодных прарокаў, маючы настаўніка — Ісуса Хрыста, які ані ня можа, ані ня хоча памыляцца, навучаючы нас, які бесканечна любіць нас і, на доказ Свае любові, аддаў за нас жыцьцё.

Самое слова любоў прыгожае і павабнае, але выконваць яго ў хрысьціянскім значэньні нялёгка. Аднак пасьля шматвяковае практыкі вачывідкі відаць, што яно неабходнае. Можа неаднаму яно выдавацца жорсткім і цяжкім, але-ж гэткаю ад самага пачатку шмат каму выдавалася ўся навука Хрыста, таму некаторыя з вучняў адышлі зразу ад Хрыста. Тады-ж Хрыстос пытаўся сваіх апосталаў: «Ці ня хочаце і вы адыйсьці ад Мяне? I адказаў Яму Сымон-Пятро: Госпадзе! да каго нам ісьці? Ты маеш словы вечнага жыцьця». (Ів. 6, 68). Нам не астаецца нічога іншага, як паўтарыць за Пятром тое-ж слова і шчыра яго выконваць.

# Неспадзеука

Як Дзяман быў сабакар, дык гэткага ў сьвеце пашукаць. Бывала, каб невядома як быў заняты, а ўсёроўна, стрэўшы сабаку, ніколі так не прапусьціў, каб не шпурнуць у яго чым колечы. Што ў руках меў, дык тым і лупіў.

Сабакі ўжо дух яго здалёк чулі і абміналі яго як маглі. Ня толькі ў сваёй вёсцы, але і ў навакольных мястэчках Міры і Турцы сабакі ад Дзямяна часта на трох нагах хадзілі, або тыднямі раны залізвалі.

Каб сказаць блазан быў, а то зусім сталы мужчына ў гадох і нават сівыя валасы ў барадзе прыкідаліся, а сабакаў цярпець ня мог. Спачатку сьмяяліся людзі, а потым прывыклі, абжыліся з думкаю, што Дзямян сабакар і толькі таго.

Аж аднаго дня, ці дасьце веры... зьмяніўся Дзямян! А як было? Пайшоў Дзямян на суд ў Наваградак. Як там той суд выпаў, ніхто потым нічога не казаў, дык і я ня ведаю, але на няшчасьце гэны суд зацягнуўся позна папаўдні і Дзямян вышаў з Наваградку дамоў ужо на сутанку. Ды трэба-ж было такога здарэньня. Калі ён зусім спусьціўся па Карэліцкай вуліцы (вуліцы, бачыце ў Наваградку такія крутыя, што па іх заўсёды ня сходзіць, а спускацца трэба), дык ні адтуль ні адсюль прыстаў да яго нейкі сабака. Агляянуўся Дзямян, а ў яго, як нейкі прыхвасьцень, валачэцца вялікі лахматы сабака, ды яшчэ з лысінаю.

— А, каб ты выдах! залаяўся Дзямян і папусьціў кіям.

Толькі войкнуў Лыска, так потым называлі сабаку, як кій яму аж забубніў па рэбрах.

— Вось табе, падла! аж усьміхнуўся Дзямян, што так добра трапіў няпрошанаму спадарожніку.

Але не прайшоў і некалькі дзясяткаў крокаў, як Лыска зноў быў каля яго.

— А, ты зноў тут! Вось я табе пакажу. Гэтым разам аж два разы шпурлаў каменьнем, але не папаў.

Не прайшоў Дзямян і некалькі вератняў, як Лыска зноў быў каля яго.

— Што гэта за насланое?! лаяўся Дзямян і аж пагнаўся за Лыскам, шпурляючы ў яго каменьнем.

Але за некалькі хвілін Лыска зноў быў каля яго.

— Хай ты здохні! Няма калі з табою займацца. Напляваў сабе са злосьці ў бараду і прысьпяшыў кроку.

Толькі мінуў ён Сялец, узыйшоў у лес па прытным узгорку, як успомніў, што яшчэ не палуднаваў і прымасьціўся каля прыдарожнага куста. Разьвязаў ён свой хатылёк, а Лыска ўжо зусім каля яго сядзіць і глядзіць яму ў вочы. Адламаў Дзямян найбольш асмаленую скарынку і кінуў у сабаку.

— На, грызі скарынку, гэта якраз на твае зубы.

Лыска зьеў, аблізаўся і завіляў хвастом.

— Бачыш, трасца табе ў бок, як скора справіўся, мусіць горш выпаладаўся, як я, і шпурнуў у яго косткаю.

Так падмацаваўшыся, яны, значыцца Дзямян і Лыска, рушылі далей у дарогу.

Прайшлі яны можа які кілямэтар, спатыкае іх нейкі чалавек.

— Куды, вы, дзядзька, ідзяцё? Зьвярнуўся ён да Дзямяна.

— Да хаты йду, чалавеча.

— Хіба недалёка дом, што нанач выбраліся?

— Недалёка? аж каля Міра, нябож.

— Каля Міра, кажаце, дык і я ў той бок іду. Добра, што спадарожнік натрапіўся, удваёх весялей ісьці будзе.

Слова за словам завязаляся гутарка, але Дзямян бачыць, што яго спадарожнік усё кірцуе, каб з правага боку йсьці і нешта пра грошы загаворвае. А тут ужо зусім сутанее і на дарозе ні душы; толькі лес навокал і яны.

— Ну, дзядзька, давай грошы! раптам загаварыў іншым голасам спадарожнік і ўчапіўся за грудзі Дзямяна.

— Адчапіся, чалавеча! дзе тыя грошы.

— Давай падобраму і не апраўдайся!

— Кажу, што няма, дык і няма.

— Даеш, ці не! зашыпеў скрозь зубы той, і ўхапіў Дзямяна за горла.

Дзямяну адразу сьвет закружыўся і не пасьпеў ён схамянуцца, як ляжаў на зямлі, а па грудзіне каленьмі таптаўся напасьнік.

Але тут сталася нешта зусім неспадзяванае... Лыска, той бедны валацуга Лыска, якога Дзямян нядаўна так перыў кіям і каменьнем, цяпер кінуўся на абарону Дзямяна. Яго моцныя іклы ўпіліся ў карк напасьніка...

— А-яй! залямэнтаваў на ўсё горла напасьнік, і пусьціўшы Дзямяна, пачаў адбівацца ад Лыска. Дзямян колькі меў сілы, схапіўся з зямлі і пусьціўся наўцёкі. Не пераводзячы духу, ён імчаўся аж да канца лесу. І толькі, як прамільгнулі між дрэваў першыя агеньчыкі з вёскі Ваўкавічы, ён перахрысьціўся і прашаптаў.

—Ну, дзякуй Богу! тут ужо хіба нападаць ня будзе. Ён аглянуўся, паслухаў — усюды было ціха. Адсопся крыху і памаленьку рушыў далей.

Перайшоў ён ваўкавіцкі масток, падыйшоў да магільніка, аж чуе зноў нейкі тупат за сабою. Агладаецца з жахам...

— Няўжо зноў?!

Аж бачыць, дык гэта Лыска ўвесь акрываўлены, так што й лысіны ня відаць у змроку, ляціць да яго, высалапіўшы язык.

— Абаронца мой...! Я цябе і калом ашарашыў і каменям частаваў... Цяпер Дзямян сам кінуўся да Лыска і, як найлепшага прыяцеля, давай цалаваць яго дзе папала, а Лыска лізаў яго бараду і твар

---

Назаўтра ў вёсцы чуць на сьвет кабеты пазычалі ў суседкаў то апонвы, то запалкі і разносілі «неймаверную» вестку...

— Гэта-ж ты чула? Дзямян, чуць сьвет, робіць нейкаму сабаццы будку!

— Можа ўжо рэхнуўся?

— Ды не. Усё, як сьлед, датолку гаворыць, на свае вочы бачыла.

Ад тых дат сабакі больш не баяліся сустракацца з Дзямянам, так зьмяніўся ён пасьля гэнага выпадку. **Анатоль Жменя.**

# ЕРУЗАЛІМ

«Усьцешыўся я, калі мне сказалі: Хадзем да дому Божага! Нашы ногі стаялі ў варотах тваіх, о Ерузаліме!» (Пс. 121, 1).

Вайною прышлося мне быць у Сьвятой Зямлі. Прыехаў я туды ў 1942 г. Мне пашчасьлівіла адведаць тыя мейсцы, дзе даканалася справа адкупленьня чалавецтва; давялося быць у тым краі, дзе нарадзіўся, як чалавек Сын Божы — Ісус Хрыстос, дзе Ён жыў, працаваў, навучаў, напамінаў людзей, як трэба жыць на сьвеце; засяваў на зямлі зерняткі Валадарства Божага — таго Валадарства, дзе пануе любоў, праўда і справядлівасьць. Я мог аглядаць тыя, мейсцы, дзе Ён быў замучаны і памёр, як чалавек для адкупленьня ад грахоў усяго чалавецтва; дзе Ён уваскрос і шмат разоў паказваўся сваім найбліжэйшым, сваім вучням, даючы ім апошнія наказы і навукі аб арганізаваньні Свае Царквы, і даваў апошнія загады аб пашырэньні Ягонае боскае навукі і аб абвяшчэньні Добрае Навіны ўсім людзям, і тамжа ўзыйшоў на Неба.

Вось-жа ў гэтым краю мне прышлося быць, а нават жыць у сталіцы гэтага краю Ерузаліме, дзе даканалася тая крыжовая ахвяра Сына Божага.

Дзеля гэтага Ерузалім, як мейсца мукі і сьмерці Госпада нашага Ісуса Хрыста, а таксама як мейсца Яго ўваскрашэньня і хвалы, для нас хрысьціян усіх народаў і ўсіх часоў ёсьць неацэненым мейсцам, бо тут поўна дарагіх памятак па нашым Збаўцы.

З гэтаю мэтаю ў Ерузалім едуць, як паадзіночныя асобы, так і цэлыя паломніцтвы ў кожным часе і ад усіх хрысьціянскіх народаў.

Ад нас, беларусаў, мала хто яшчэ бываў у Ерузаліме. Гэта не дзеля таго, каб наш народ не дацэньваў вартасьці сьвятых месцаў, але дзеля таго,што ня так заможны,каб мог выбрацца дзесьці ў сьвет, хоць-бы і не на доўга, бо для падарожжа, акрамя добрае волі, ахвоты, патрэбна грошай і часу.

Датаго калісь было шмат труднасьцяў, каб заехаць у Сьвятую Зямлю — Палестыну, бо гэты край быў пад уладай туркаў. Цяпер тут зьверхнасьць маюць ангельцы. Сама падарожжа так-жа раней адбывалася на аслох, ці мулах, цяпер-жа амаль да ўсіх важнейшых мяйсцоў пралажаны добрыя дарогі і даязджаецца вельмі хутка самаходамі.

А пабываць тут, дакрануцца тых дарагіх і сьвятых мейсцаў, як апостал Тамаш раны ў боку Хрыста — гэта рэч вялікае вагі. З адведваньнем сьвятых мейсцаў зьвязаны шматлікія і поўныя адпусты.

Нам, беларусам, асабліва ў сучаснай стадыі нацыянальнага жыцьця, патрэбна моцнае апоры, надзейнага фундаманту, на каторым можна будаваць трывалы будынак нацыянальнага жыцьця, а такім фундамантам ёсьць Хрыстос. «Ніхто ня можа пакласьці іншага фундаманту, апрача закладзенага, які ёсьць Ісус Хрыстос» (1 Кар. 3, 11).

Дзеля гэтага нам трэба сягнуць да падставаў хрысьціянізму, яго навукі, а Сьвятыя Мейсцы маюць лучнасьць з перабываньнем тут на зямлі Сына Божага, таму для нас яны маюць асаблівае значэньне.

Так! Вось-жа каму ўдасца там пабываць — добра, а хто ня зможа, дык хай хоць з гэтага апісу крыху зазнаёміцца з дарагімі для нас памяткамі.

---

Ерузалім — места даволі вялікае, мае жыхарства 155.000 чалавек. Тут ёсьць шмат розных народнасьцяў, нават часта можна сустрэць прадстаўнікоў чорнае расы. Найбольш тут арабаў, між якімі нямала каталікоў і іншых хрысьціянскіх веравызнаваньняў, аднак у бальшыні арабы вызнаюць магамэтанства. Ня меньш ад арабаў тут ёсьць жыдоў. Напісы дзе якія — найбольш пангельску, паарабску і пажыдоўску.

У Ерузаліме ёсьць шмат розных сьвятыняў і няхрысьціянскіх і хрысьціянскіх розных абрадаў. Да некаторых Сьвятых Месцаў маюць свабодны доступ усе большыя хрысьціянскія веравызнаваньні.

Найважнейшыя мейсцы для ўсіх паломнікаў — гэта Кальварыя і Гроб Хрыстоў, каторыя знаходзяцца ў базыліцы сьв. Гробу і куды накіроўваецца кожны сьвежа прыбылы хрысьціянін. Аб базыліцы сьв. Гробу будзем гаварыць пры канцы Крыжовае Дарогі, цяпер-жа хачу распачаць сваё апісаньне ад

### ГЭТСЭМАНІ,

дзе затрымаліся нашыя паломнікі, зь якімі я першы раз прыбыў у Ерузалім, і адкуль распачаў адведваць Сьвятыя Мейсцы.

Гэтсэмані — гэта мейсца, дзе распачаліся цярпеньні Ісуса Хрыста, куды Ён прыйшоў пасьля Апошняе Вячэры з сваімі вучнямі на малітву, і адкуль ён быў забраны на мукі і сьмерць.

Гэтсэмані знайходзіцца крыху за Ерузалімам, на ўсход ад яго, пры Аліўнай гары. Паміж Аліўнай гарою і Ерузалімам знайходзіцца Езафатава даліна, каторую перасякае высахлае рэчышча Кедрону.

У Гэтсэмані, на тым мейсцы, дзе калісь маліўся Хрыстос, цяпер стаіць

### БАЗЫЛІКА КАНАНЬНЯ.

Тое мейсца, дзе калісь кленчыў Хрыстос, тая шурпатая скала, каторую цяпер цалуе кожны пабожны паломнік, знайходзіцца перад самым Вялікім Аўтаром за балюстрадамі.

Над аўтаром знайходзіцца абраз Хрыста падчас малітвы, а леваруч і праваруч, над бочнымі аўтарамі, знайходзяцца вялікія абразы: адзін — зрада Юды, а другі — мамэнт перад тым, як мелі ўзяць Хрыста.

Шклы ў вокнах базылікі каляровыя і так дабраны, што ў сьвятыні заўсёды пануе прыемны сутанак, каб наведвальнік лягчэй мог уявіць тую пару, тую ноч, калі на гэтым мейсцы адбываліся тыя важныя здарэньні.

Базыліка ў сучасным выглядзе пабудавана пасьля першае сусьветнае вайны, але на гэтым мейсцы была сьвятыня ўжо ад IV веку, шмат разоў руйнаваная і адбудоўваная.

Увайходзіцца ў Базыліку праз франтовыя дзьверы мала калі, толькі ў часе вялікіх урачыстасьцяў, а так звычайна ўвайходзіцца збоку, з паўдня. Тут за агарожаю бачым яшчэ кавалак прыгожага квяцістага саду, у якім стаіць 8 старых аліўных дрэваў з нізкімі, але грубымі пнямі. Гэтыя дрэвы магчыма яшчэ былі сьведкамі крывавай малітвы Ісуса. Базыліка знайходзіцца ў руках каталікоў.

Недалёк ад базылікі Кананьня знайходзіцца грота Забраньня Ісуса і сьвятыня Унебаўзяцьця, дзе знайходзіцца

### ГРОБ БАГАРОДЗІЦЫ.

Тут Яна была пахаваная і адгэтуль была ўзята ў Неба.

Цяпер гэтая сьвятыня знайходзіцца ў руках праваслаўных. У сьвятыню сходзіцца ўніз па сходах, бо сама сьвятыня знайходзіцца амаль у зямлі, бо дно даліны ад таго часу, калі была збудавана сьвятыня так засыпалася, што дах сьвятыні сёньня амаль роўны з паверхняй зямлі.

(Працяг будзе)

## ЖМЕНЯ ЛІКАЎ

Часам здараецца ў жыцьці, што лікі лепш сьведчаць аб нейкім зьявішчы, чым словы. Здаецца, што гэтак маецца справа ў дачыненьні да Праваслаўнае Царквы ў Расеі, калі прыглянуцца да яе епархіі.

У 1911 г. у царскай Расеі было 139 епархаў.
У 1927 г. у СССР было больш як 272 епархі (не рахуючы абнаўленцаў).

| | | |
|---|---|---|
| У 1939 г. | » | толькі 4*) епархі |
| У 1942 г. | » | 19 епарх. |
| У 1944 г. | » | 41 епарх. |
| У 1945 г. | » | 56 епарх. |
| У 1947 г. | » | 79 епарх. |

За апошні 1947-ы год прыбыло 10 чалавек епархаў. З ліку 79 сучасных савецкіх «праваслаўных» епархаў адзін на пакоі, адзін у запярці і на пакуце ў Жыровіцкім манастыры і два па-за межамі СССР. Акрамя таго ў розных пазасавецкіх дзяржавах ёсьць 13 епіскапаў, якія прызнаюць над сабою беспасрэдную зьверхнасьць Маскоўскага патрыярха. Варта ўвагі, што ў радох сучасных савецкіх «праваслаўных» епархаў ёсьць 5, якія да 1942 г. былі абнаўленцамі; 25 маюць савецкія мэдалі «За доблестный труд во время отечественной войны 1941-1945», гэткія-ж мэдалі агулам маюць 202 сьвятары.

Характэрнаю азнакаю савецкае адміністрацыі ёсьць частыя перакіданьні з места на места; тое-ж дзеецца і з епархамі: за апошнія чатыры гады 47 епархаў былі перамешчаны, з іх 14 па некалькі разоў.

(Супастаўленьні зробленыя на аснове «Журналу Маскоўскае Патрыярхіі».

*) Паданыя тут лікі адносяцца да епархаў на становішчах, бо на сасланьні і ў турмах былі цэлыя дзесяткі.

## Поўныя адпусты загінуўшым на вайне

На просьбу некаторых біскупаў і кардыналаў Сьвяцейшы Айцец Пій XII, дня 21-га лютага с. г., надаў поўны адпуст усім тым, хто выспаведаецца і запрычашчаецца між Вербніцаю і Таміною нядзеляю (першая нядзеля пасьля Вялікадня), ды памоліцца ў намераньні Сьвяцейшага Айца (выстарчыць згаварыць малітвы: «Отча наш» і «Багародзіца Дзева», ці інш.) і ахвяруе гэты адпуст за душы вернікаў, якія загінулі ў часе апошняе вайны.

Гэты вынятковы дэкрэт важны толькі на гэты год.

**Увага:** Словам «адпуст» перакладаем лацінскае слова «індульгэнцыя», якое азначае: адпушчэньне кары за грахі, якую душа мусіць спакутаваць за гробам. Бо грэх, як і кожны злочын, зьяўляецца правінаю і заслугоўвае на кару. Пасьля шчырае споведзі і разграшэньня, правіна даруецца зусім, а кара даруецца на толькі, на колькі за яе каяньнік адбудзе пакуту-эпітымію. Звы-

чайна частка кары астаецца заўсёды, а разам з ёю астаюцца на душы сьляды граху. Калі ў гэткім стане чалавек умірае, дык душа за іх мусіць адбыць пакуту на тамтым сьвеце. Як доўга гэтая пакута трывае, ніхто ня ведае, але затое добра ведама, што яе можна скараціць малітвамі за памёршага, пастом і добрымі ўчынкамі ахвяраванымі за яго душу. З волі Сьвяцейшага Айца да некаторых малітваў і добрых учынкаў прыдаецца асаблівая ласка, што за іх зьмяншаецца пакута на шмат дзён, або і зусім. Гэтарочная вялікодная споведзь з прычасьцем належыць якраз да тых, што зьвязана з асаблівою ласкаю поўнага адпусту для душаў, якія ў стане ласкі, але з частковаю караю загінулі ў часе апошняе вайны. Асабліва варта, каб з гэтага адпусту скарысталі тыя, каторыя страцілі ў часе вайны сваіх блізкіх сяброў і родных.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### «Душпастырская» візытацыя.

Позна і павольна дайходзяць да нас весткі з Бацькаўшчыны, тым ня менш, яны заўсёды для нас цікавыя. Вясною мінулага году горадзенскі еп. Варсофоній наведваў некаторыя свае прыходы і пры гэтай нагодзе як паведамляе «Журнал Маскоўскае Патрыярхіі» Нр. 12. «Уладыка заўсёды адбываў багаслужэньні ў перапоўненых сьвятынях і павучаў вернікаў. Ён заклікаў браць прыклад ад старэйшых братоў Масквы і Кіева ў іх заўсёднай малітве за памёршых, пільным наведваньні сьвятыняў, а так-жа ў любові і прывязанасьці да Бацькаўшчыны і роднай уладзе».

Паясьненьні да гэткіх вестак непатрэбныя.

### Курсы для псаломшчыкаў.

Між 12-га верасьня і 11-га кастрычніка м. г. адбыліся ў Пінску курсы для дзякоў, на якіх удзельнічала 35 чалавек. За два тыдні курсанты мусілі выслухаць шмат прадметаў між якімі абавязкава і лекцыі аб савецкай канстытуцыі. Калі для сьвятароў выстарчаюць месячныя курсы, дык чаму ня маюць выстарчаць для дзякоў 2 тыдні?

### Аб-чым мае сьведчыць Праваслаўны Жаночы манастыр у Горадні?

Жаночы праваслаўны манастыр у Горадні шчасьліва ўцалеў ад ваенных падзеяў. Сёньня ў ім ёсьць 70 манашак, якія жывуць з працы ў сваім агародзе і ручных занятках. Аб гэтым манастыры Горадзенскі еп. Варсофоній у «Журнале Маскоўскае Патрыярхіі» Нр. 12 падае кароткую зацемку, якую канчае даслоўна (ў перакладзе): «Дай Божа, каб гэтая наша праваслаўная расейская сьвятыня вечна напамінала, што Горадня — спрадвеку расейская праваслаўная сьвятыня нашае зямлі».

Відаць чаму гэты-ж еп. Варсофоній на кароткатэрміновых курсах застаўляў мяйсцовых сьвятароў вывучаць расейскую мову.

### Супрацькаталіцкая прапаганда на Беларусі.

У выдавецтве «Праўды» выйшла цэлы сьцяг розных палітычна-прапагандыстычных брашураў, між якімі знайходзім стэнаграму публічнага дакладу прачытанага 17-VIII-47 г. у доме партыйнае асьветы ў Менску тав. А. О. Артурава на тэму: «Ватыкан і яго палітыка». У брашуры побач чыста інфармацыйных даных аб Ватыкане зьмешчаны самыя недарэчныя напады на каталіцызм і Сьвяцейшага Айца. Аб сучасным стане каталіцызму на Беларусі не заікаецца і словам.

## АНГЛІЯ.

### Беларуская дэлегацыя ў Кардынала.

Дня 20 лютага г. г. прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Англіі былі прыняты на аўдыенцыі Я. Эм. Кардыналам Грыффінам. Яго Эмінэнцыя прыняў беларусаў вельмі цёпла і выказаў шмат спагаду так для нашай Бацькаўшчыны, як і для беларускае эміграцыі.

### З Багаслужэньнем у ангельскіх студэнтаў.

На запросіны ангельскіх студэнтаў у Кэмбрідж Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі ў Англіі а. др. Ч. Сіповіч адведаў іхні інтэрнат і адправіў 25 лютага г. г. урачыстае багаслужэньне ўсходняга абраду. Дай Божа, каб гэтыя адведзіны прычыніліся да шчырае нацыянальнае лучнасьці.

## БЭЛЬГІЯ.

### Свой часапіс.

Беларусы ў Бэльгіі распачалі паважныя стараньні, каб мець свой друкаваны часапіс «Незалежнасьць», які пакульшто мае выходзіць непэрыядычна.

## З. Ш. А.

### Аднаўленьне Беларускае Нацыянальнае Рады.

У ЗША афіцыяльна налічваецца больш 500.000 беларусаў. Іх нацыянальная сьведамасьць і арганізацыйнае жыцьцё ўжо здаўна выклікалі шмат пажаданьняў. Аграмадная бальшыня бела-

русаў прыбыла ў Амэрыку яшчэ перад першаю сусьветнаю вайною, ня вывезшы глыбейшае нацыянальнае сьведамасьці з краю, затопленага тады расейшчынай.

Задоўга перад першай сусьветнай вайною ў Чыкаго была заложана Беларуская Нацыянальная Рада, якая паставіла сабе за мэту: сарганізаваць беларусаў і быць абаронцам іх нацыянальных інтарэсаў.

Нажаль спрычыны антыбеларускіх інтрыгаў, дзейнасьць Беларускае Нацыянальнае Рады амаль увесь час была спаралiжаваная.

Апошнім часам нацыянальная сьведамасьць беларусаў у Амэрыцы пачала падымацца, дый сябры Рады паставілі рашучы супраціў усякім інтрыгам. Нядаўна адбыліся перавыбары і на чале Рады сталі ведамыя патрыёты-незалежнікі: Старшыня — Чопко Павал, Сакратар — Лабач Ігнат, Скарбнік — Аблажэй Макар.

Новая ўправа адразу праявіла глыбейшую ініцыятыву, прыступіўшы да ўрачыстага сьвяткаваньня 25 сакавіка. Мае адбыцца беларускае багаслужэньне з масавым удзелам грамадзянства, урачыстая акадэмія і, надаваныя праз радыё, прамовы, прысьвячаныя 25 сакавіку.

У будучыні праектуецца выдаваць беларускую газэту, якая-б абараняла нацыянальныя інтарэсы беларусаў у Амэрыцы.

Адрыс Беларускае Нацыянальнае Рады:

Whiteruthenian National Concil, 2623 W. Augusta Blvd. Chicago 22. Illinois. U.S.A.

## КАНАДА.

### Свой часапіс.

Пачынаючы ад лютага гэтага году пачаў выходзіць у Ошаве на ратэтары беларускі часапіс пад назовам «Беларускі Эмігрант». Радакцыя паставіла сабе вельмі паважную мэту: усьведамляць эміграцыю, што яна «ёсьць голасам паняволеных братоў на бацькаўшчыне, іх прадстаўніком і абаронцам». Ад душы жадаем посьпеху новаму часапісу ў выкананьні яго пачэснага і адказнага абавязку.

Радакцыя месьціцца ў:

Mr. Akula Kastus, c/o A. Ponicky, R. R. № 2. Oshawa, Ontario. Canada.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Беларуская Харытатыўная Служба.

У сучасным ліхалецьці для беларускае эміграцыі ў Нямеччыне Беларуская Харытатыўная Служба мае вельмі шмат важных і адказных заданьняў да выкананьня, таму варта каб памяталі аб гэтай арганізацыі ня толькі тыя, што патрабуюць помачы, але так-жа і тыя, якія самі могуць чыніць нейкую помач. Кожны ўступаючы ў сябры Харытасу плаціць 3 маркі ўпісовага і штомесячную складку па 1 марцы.

### Фонд Помачы Калекам, Удовам і Сіратам.

Пры Беларускай Харытатыўнай Службе ўтварыўся спэцыяльны фонд для помачы калекам, удовам і сіратам. Гэтую так патрэбную інстытуцыю трэба прывітаць ня толькі з радасьцю, але варта ёй прыйсьці з помаччу ўсімі магчымымі спосабамі і матэрыяламі.

Хто можа ахвяраваць вопратку, ежу, грошы і інш., хай будзе ласкаў выслаць на адрыс: (для ангельскае зоны):

Hochw. Dechant Michael Moskalik, 20b Goslar, Sommerwohlenstr. 1 A.

(для амерыканскае зоны):

13b Osterhofen Ndb, Weissruthenisches D.P. Camp. Mgr. Kuncevic Mikolaj.

### Сьмерць мітр. Аляксандра.

Быўшы мітр. Палескі і Пінскі Аляксандар Іназемцов памёр неспадзеванаю сьмерцю дня 9-II-48. у Мюнхэне.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новы Адзьдзел Беларускага Сындыкату.

Ад пачатку гэтага году адчынена пры Сындыкаце Францускіх Хрысьціянскіх Работнікаў (СФТС) новы адзьдзел Сындыкату Беларускіх Работнікаў у гор. Ле Крэзо. Управа новага Адзьдзелу парабіла адпаведныя стараньні, каб усе беларускія работнікі з ваколіцы ўпісаліся ў лік сяброў.

## ПОШУКІ:

**Дуровічаў** Мікалая і Анатоля нар. у Віленшчыне шукае Філіповіч Мікалай з Амэрыкі. Пісаць на адрыс:

Weissruthenisches Caritasdienst. 20b. Goslar. Sommerwohlenstr. 1 A. Brit. Zone.

**Глётт** Мікалай просіць сваіх знаёмых адгукнуцца на адрыс:

Leg. Glott, S. P. 82388. 10-ème Compagnie. T. O. E. France. Indochine.

Старых знаёмых з гор. Кобрынь шукае Кобрынец. Пісаць на адрыс радакцыі.

## ЗЬМЕСТ.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.